**Х. Мальцінскі**

## СВЕТЛА Ў НАВАКОЛЛІ

Светла ў наваколлі,
Снег укрыў зямлю.
У далоні коле —
Снежкі я луплю.

Колькі весялосці!
Добры дзень,
Зіма!
Кожны знае —
Госці
Лепшае няма.

Вунь у белым футры
Добры Дзед Мароз.
Каб ляцелі хутка,
Санкі ўсім прынёс.

Як шкада,
Што з намі
Не памчаць з гары
З Індыі,
В'етнама
Шчырыя сябры.

Мы лісты напішам:
„Просім вас,
Сябры,
У снягоў зацішша,
Ў пушчы і бары!

З Конга
Ды з Алжыра —
Пад напеў бяроз.
Вас прывеціць шчыра
Добры Дзед Мароз.

Мы падзелім з вамі
Звонкі смех
Пацех.
Паглядзіце самі,
Як іскрыцца снег!“

**Пераклад Р. Барадуліна**

**М. Хведаровіч**

## КОЎЗАНКА

*Рассыпаў студзеньскі світанак*
*Срабрысты іней па зямлі.*
*Сняжку падкінуў ён на ганак,*
*Марозам лужыны зашкліў.*

*Аж гнуцца тонкія галінкі,*
*Такі быў ноччу снегапад.*
*На плечы белую касынку*
*Сабе накінуў ціхі сад.*

*Зіма з марозам на дасвецці*
*Скавала ўвесь на рэчцы брод.*
*Заўзята коўзаюцца дзеці,*
*Хоць не трывалы яшчэ лёд.*

*Спяшае ў госці дзень да ночы,*
*А ў школе ўсё яшчэ ўрок.*
*Але мы хутка яго кончым*
*І гуртам пойдзем на каток.*

*Аж покуль сонейка не зойдзе,*
*І смех, і гоман ля ракі...*
*Звіняць, звіняць на тонкім лёдзе*
*Мае сталёвыя канькі.*



# ЧЫТАЕМ і пішам

## Прыказкі.

Добра працуеш – павагу маеш.
Менш гавары – больш думай.

Дарагія дзедка і бабка!
Я ўжо ўмею чытаць. І сама
пішу гэты ліст.
Прыязджайце да нас у госці.
Мы будзем вельмі рады.
Ваша ўнучка Таня.

– Вожык, ты чаму калючы?
Гэтак колешся балюча?
– Бо лісы, ваўкі, мядзведзі –
не найлепшыя суседзі.

А. Мас

# „Калі не будзе снегу...“

У той дзень у нас было чатыры ўрокі — спеў не адбыўся, — і мы з Алай адразу пасля школы пайшлі ў іх двор.

Мы з Алай перакінулі сумкі праз плот і самі пералезлі.

— Паказаць, як ты праз плот лезеш? — спытала Ала.

Я глядзела, як яна паказвае мяне, — тупае, сапе, паказвае язык, мацае нагамі перакладзіны. Мне зусім не было смешна глядзець на сябе збоку, але я смяялася, каб Ала не падумала, што мне крыўдна.

— Глядзі, як трэба! — сказала Ала, калі скончыла мяне разыгрываць. — Ставіш нагу сюды, другую перакідваеш, саскакваеш — усё!

Яна спружыніста скокнула на зямлю, развяла рукі ў бакі і пераможна азірнулася, як чэмпіёнка, перакананая ў перамозе.

— Пабеглі да той кучы! — запрапанавала яна.

Куча снегу была вялізная, відаць, дворнік згроб сюды снег з усяго двара і дакладна абкляпаў бакі, так што атрымалася вялізная прызма. Яна была даволі пульхная, і пакуль мы ўскарабкаліся на самы верх, у мяне былі поўныя боты снегу.

Не маючы санак, мы каталіся з горкі на сумках. Сумкі, вядома, не слізгаліся, а толькі цягнулі за сабою пласты снегу, так што мінут праз дзесяць ад снежнай прызмы засталося нешта бяскшталтнае, патоптанае і беднае.

Ала кінула сумку ўбок, стала насярод купіны і крыкнула:

— Страляй!

Я зняла рукавічку, накіравала ў бок Алы ўказальны палец і сказала: „Пу!“

Ала схапілася за жывот, сагнулася, паказваючы перадсмяротныя мучэнні, прыгожа ўпала і пакацілася, пераварочваючыся са спіны на жывот, — зусім так, як у кінафільмах, дзе забіваюць.

— Цяпер ты ў мяне! — сказала я, узлазячы на вярхушку таго, што яшчэ нядаўна было снежнай прызмай. Мне захацелася таксама прыгожа ўпасці.

Але стрэлу не было, а замест яго за маімі плячыма пачуўся крык:

— Вось я вам вушы паабрываю!

У першы момант я нават не падумала, што гэты крык датычыць іменна нас: мы так весела бавімся, нікому не перашкаджаем. Я азірнулася, каб убачыць таго, што крычаў. Але адначасова пачула спалоханы крык Алы:

— Дворнік!

І раптам я ўбачыла, што бяжыць за мной мужчына з доўгай барадой.

— Чаго стаіш? Уцякай! — крыкнула Ала.

Яна падхапіла сваю сумку і была ўжо каля плоту. Я таксама пабегла. У мяне калені падгіналіся ад страху.

Я паспела дабегчы да плоту. Дарэчы, брамка была зусім побач, але мне і ў галаву не прыйшло ўцякаць туды, бо Ала заўсёды лазіла праз плот. Я паставіла адну нагу на ніжнюю перакладзіну, задрала другую, намацала верхнюю

перакладзіну. Але ён схапіў мяне за каўнер і сцягнуў з плота.

— Нашкодзіла і наўцёкі? — сказаў ён. — Пайшлі.

Трымаючы за каўнер, ён павёў мяне назад, да раскіданай кучы снегу. Дворнік даў мне ў рукі лапату і сказаў:

— Пакуль не зробіш усё, як было, не пойдзеш. Зразумела?

Я пакорна ўзяла лапату. Глянула на раскіданы снег і зразумела, што прыбіраць яго буду вечна. З пачуццём поўнай безнадзейнасці я падчапіла камяк снегу, паднатужылася і тут жа высыпала набок.

Дворнік моўчкі наглядаў, як я намагаю свае скупенькія сілы, прабуючы даць сабе рады з непаслухмянай лапатай. Снег у маіх ботах растаў, і праз шкарпэткі да ног працякала вада. Але гэта не мела ніякага значэння. Я адчувала сябе адзінокай мурашкай, якая павінна сама, без нічыёй дапамогі пабудаваць раскіданы мурашнік.

Я пачула свіст. Падняла галаву і ў акне другога паверха ўбачыла Алу. Яна стаяла на падаконніку, а галаву высунула ў фортачку. Упэўніўшыся, што я яе заўважыла, яна памахала мне рукой і зрабіла брыдкую міну ў бок дворніка. Мяне толькі яшчэ больш сціснула пачуццё безнадзейнасці і адзіноцтва. Дворнік таксама ўбачыў Алу.

— Што ж яна цябе кінула, твая сяброўка? — спытаў ён.

Я заплакала.

— Ну добра, — сказаў дворнік і забраў у мяне лапату. — Ідзі дадому. І больш так не рабі. Чужую працу трэба шанаваць. Не вучылі вас гэтаму?

Я падышла да сваёй сумкі, села на яе, зняла боты і пачала вытрасаць з яго снег. Дворнік уткнуў лапату ў снег і спытаў:

— Ты дзе жывеш? Далёка?

— Дваццаць мінут ад дома да школы.

— Тады вось што, пайшлі да мяне, я табе сухія шкарпэткі дам.

— Не трэба, я так дайду! — упіралася я, але ён прымусіў мяне нацягнуць бот і павёў.

Гэта быў вялікі пакой, увесь увешаны і застаўлены карцінамі. У кутку, у нішы, стаяў тапчан, пакрыты паласатай тканінай, і стол, завалены пэндзлямі, рулонамі паперы, драўлянымі планкамі, тубкамі і каляровымі слоічкамі. Пакой нагадваў акварыум з рознакаляровымі рыбамі — вялікімі, маленькімі, і ні адна не падобна на другую. І кожную хочацца паглядзець паасобку.

Пасярод пакоя, на спецыяльнай падстаўцы, вісела, здаецца, незакончаная карціна. На ёй быў намаляваны знаёмы мне завулак. Кожны дзень я хаджу гэтым завулкам у школу і са школы. Мне нават здалося, што вунь тая фігурка на тратуары — гэта я...

—Ой, трэба ж... — мармытала я.

— Што трэба ж? — спытаў дворнік.

— Мне вельмі падабаецца гэта карціна.

— Так? — сказаў ён. — Я вось думаю, можа, на выстаўку яе запрапанаваць?

— Дык гэта вы намалявалі?

— Я, а хто ж?

— Дык, значыць, вы мастак?

— Ну, не мастак, а пакуль яшчэ студэнт мастацкай школы.

— І гэта ўсе вашы карціны?

— Вядома, мае.

Ён падышоў да тапчана, пакорпаўся ў ім, выцягнуў шкарпэткі і падаў мне:

*(Працяг на стар. 7)*




**Г. Снегіроў, В. Глоцер**

## КАЗКІ ТАЙГІ І ТУНДРЫ

Ад берагоў Белага мора да берагоў Ціхага акіяна, на тысячы кіламетраў працягнулася тайга. Лес, лес, — без канца і краю. Велізарныя кедры ў гарах, блакітныя лістоўніцы па берагах быстрых сібірскіх рэк, непраходныя завалы паваленых дрэў, — усё гэта тайга.

А дзе канчаецца тайга, там, за Палярным колам, пачынаецца тундра. Карлікавыя бярозкі, івы ды кветкі па берагах халодных азёр і топкіх балот. Зямля тут адтайвае ў кароткае палярнае лета толькі зверху, а глыбей — яна ўся цвёрдая і мёрзлая.

Суровая прырода тайгі і тундры. Але з незапамяных часоў жылі тут розныя плямёны паляўнічых, аленяводаў, рыбакоў.

На шырокіх лыжах, падбітых аленяй шкурай, ішлі паляўнічыя з лукамі і стрэламі ў тайгу па собаляў і вавёрак, па дзікіх аленяў, па мядзведзяў.

У лёгкіх лодках са шкуры цюленя заплывалі далёка ад берага зверабоі, каб здабыць гарпунамі маржоў і кітоў.

З месца на месца пераганялі пастухі статкі аленяў, шукаючы белы мох ягель.

Доўга цягнецца палярная ноч. Толькі ў сакавіку пакажацца беражок сонца і паружавее снег у тундры. Але раптам зноў наляціць снежны буран, ледзяны вецер загоніць людзей у ярангі, дзе гарыць агонь, цёпла і ў катле варыцца мяса.

Людзі са свайго стойбішча, з усіх яранг сядзяць ля вогнішча і слухаюць казку. Маленькія дзяўчынкі і хлопчыкі прысунуліся бліжэй да казачніка.

Казачнік расказвае аб адважных паляўнічых, аб злых чарадзеях, аб добрых мядзведзях і іншае.

Доўга расказвае свае казкі казачнік, у дзяцей ужо зліпаюцца вочы, хочацца спаць, ды шкада прапусціць хоць адно слова.

Казачнік заходзіць да страшнага месца, ён бляднее і гаворыць усё цішэй і цішэй, а слухачы крычаць:

— Ух!

— Праўда!

— Так!

Заканчвае казку казачнік, і апошнія яго словы такія:

— Канец! Я забіў завею!

І праўда: завея за сцяною ярангі сціхла. Казка дапамагла перажыць доўгую палярную ноч.

Нездарма ў чукчаў, нідхаў, доўган, эвенкаў казачнік — гэта самы паважаны чалавек у стойбішчы.

Ад аднаго чалавека да другога, з вуснаў у вусны, век за векам, пераходзілі самыя любімыя казкі і дайшлі да нашых дзён.



*(Працяг са стар. 5)*

# „Калі не будзе снегу...“

— Пераабувайся.

Я села на беражок тапчана і пачала сцягваць боты.

— Цябе як завуць? — раптам спытаў ён.

— Маша.

— А мяне — Віктар. На зімнія канікулы паеду на вёску — вось там пейзажы! Я мог бы раней паехаць, каб не пагода. Снег валіць і валіць. Не паспееш прыбраць — зноў наваліла. Вось калі на гэтым тыдні больш снегу не будзе, думаю, удасца здаць некалькі экзаменаў перад тэрмінам, і тады...

Шкарпэткі Віктара даходзілі мне да калена. Я надзела боты і ўстала. Мне вельмі хацелася пахадзіць па пакоі, паразглядваць карціны, але я вырашыла, што гэта ў наступны раз, калі прынясу шкарпэткі.

— Да пабачэння, — сказала я Віктару. — Прабачце мне, калі ласка.

— Добра, што ўжо, добра, — адказаў ён. — Заўтра прыходзь, добра? У гэтым жа футэрку і ў гэтай жа шапцы. Я твой партрэт намалюю.

— Калі снегу не будзе?

Ён засмяяўся і адказаў:

— Усё роўна прыходзь.

...Каля плота я ўбачыла Алу. Мне было ніякавата глядзець на яе. Быццам не яна, а я кінула яе ў цяжкую хвіліну.

Я выйшла праз брамку і пайшла дадому. Усе дамы, лямпы, дрэвы, аўтобусы і лаўкі здаваліся мне цудоўнымі, быццам намаляваныя маім новым знаёмым — мастаком.



**Гульні на снезе.** **Фота К. Свідэрскага.**

# Пазнаёмімся

* ✲ *

СССР, 354300, Краснодарский край, пос. Верхне-Баканский, ул. Коммунистическая, д. 5, кв. 55. Лебедь Ольге. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

СССР, г. Ростов н/Дону, Беломорский переулок, дом 202, кв. 20. Наташа. Прозвішча дзяўчынка забылася напісаць, а вучыцца яна ў трэцім класе і хоча перапісвацца з сяброўкай-аднагодкай.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Мінскі тракт, 26, кв. 2. Вадзім Зіневіч, вучань 4 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Загарадная, 14, кв. 1. Саша Якубовіч, вучань 4 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенская вобласць, вул. Савецкая, 62. 4-я сярэдняя школа, 4-А клас. Міша Папкевіч.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Гагарына, 32, кв. 1.Алег Аляхновіч, 11 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенская вобласць, в. Петралевічы, Цагельны завод. Алег Каракоў, вучань 4 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Гагарына, 30, кв. 1. Сяргей Харытончык, вучань 4 класа.

* ✲ *

СССР, г. Москва, ул. Байкальская, д. 50, кор. 1, кв. 50. Прокудиной Лене. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

# АДГАДАНКА

*З якіх лічбаў атрымаліся конь і леў?*

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**